# КАНСПЭКТ

№ 2 (6) сакавік - красавік 2000г.

Незалежнае выданьне полацкіх студэнтаў



Рэдактар "Канспэкта" шчыра віншуе ўсіх сябраў ЗБС зь дзесяцігодзьдзем роднай арганізацыі. Жадае посьпехаў пад час сэсіі, а таксама плённай працы на ніве Беларускага Адраджэньня !!!

## У гэтым нумары чытайце:

# ЗБС ВУЧЫЦЦА

27-28 лютага ў Наваполацку, а 1-2 красавіка ў Воршы адбылісячарговыя сэмінары ў межах праграм што ажыцяўляецца Цэнтрам моладзевых ініцыятываў “Контур”. Іх удзельнікамі сталі прадстаўнікі шэрагу няўрадавых арганізацыяў зьВітэбску, Воршы, Наваполацку, у тым ліку і сябры рэдакцыйнай рады “Канспэкту”. Першы з сэмінараў быў прысьвечаны прававым асновам выдавецкай дзейнасьці. Рэгіянальным каардынатарам ад Наваполацку была Рыта Гаціх. У якасьці трэнэраў выступалі юрыст Натальля Доўнар і журналіст Юры Сьцяпанаў.

Пад час заняткаў удзельнікі азнаёміліся з заканадаўчымі актамі, што рэгулююць выдавецкую дзейнасьць, парадак рэгістрацыі газэтаў, разгледзелі канкрэтныя прыклады выкарыстаньння прававой інфармацыі ў журналісцкай практыцы.

Ня гледзячы на істотныя праблемы з расьсяленьнем удзельнікаў, можна меркаваць, што сэмінар маладым журналістам спадабаўся. Асаблівае захапленьне ў іх выклікала тэатральна-музычная пастаноўка “Е-міграцыя альбо Гульня на звонкі”, зладжаная творчай майстэрняй “Зьніч”. Тэмай аршанскага сэмінару былі псыхалягічныя асьпэкты выдавецкай дзейнасьці. На гэты раз трэнінгам кіравалі Тацьцяна Усава (IREX pro-media) і журналіст Васіль Брус. Рэгіянальным каардынатарам быў Алесь Шутаў.

Размова на сэмінары ішла пра пытаньні лідарства і ўзаемадзеяньня кіраўніка з калектывам, канфлікты і камунікацыі. Асобная ўвага была прысвечана пытаньням журналісцкай этыкі. На прыканцы першага вечару ўдзельнікі мелі магчымасьць паскакаць пад замежную і беларускую музыку. Праўда музыка была занадта гучнай і ў асобных сяброў NGO проста не вытрымалі барабанныя перапонкі.




# ЗБСу-10год!

19 сакавіка ў жыцьці ЗБСаўцаў адбылася значная падзея – роднай арганізацыі споўнілася 10 гадоў. З гэтай нагоды ў Менску ў бары Pal Mal адбылося грандыёзнае сьвята. На ўздел ў імпрэзе былі запрошаны сябры з усіх рэгіянальных суполак, а таксама некаторыя былыя сябры ЗБС і госьці з блізкага і далёкага замежжа. Сьвяткаваньню папярэднічаў двудзённы сэмінар прысьвечаны выдавецкай дзейнасьці, але , нягледзячы на складаную вучобу , ува ўсіх хапіла імпэту каб павесяліцца ад душы.

Усе, хто прыйшлі на сьвята, змаглі адарвацца па ўсёй праграме: тут табе і розныя конкурсы, і сустрэча зь любімымі бардамі, ну і канешне новыя і старыя знаёмыя. Да таго ж, як высьветлілася, шэрагі ЗБСу багатыя на разнастайныя таленты: падчас імправізаванага канцэрту хто сьпяваў, хто таньчыў экзатычныя танцы, хто дэманстраваў зайздросную пластыку ды ўменьне рухацца па сцэне не горш за манекеншчыц.А якая класная была дыскатэка! Карацей, сьвята атрымалася на ўсе 100 %!!!

Ул. інф

# З гісторыі ЗБС

У 1986 – 1987 гадох у вну Менска пачалі ўзьнікаць першыя студэнцкія суполкі: "Нашчадкі" у пединстытуце, "Сьвітанак" у БТІ, "Крывічы", "Агмень". Нацыянальна-патрыятычныя па зьместу, яны упершыню ўзьнялі такія студэнцкія праблемы, як аўтаномія вну, дэмакратызацыя кіраваньня ў іх, скасаваньне ідэялягічных дысцыплін, вызваленьне студэнта ад службы ў войску.

Значную ролю адыграла газэта "Студэнцкая думка", якая спачатку выходзіла як выданьне "Сьвітанка", а пасьля – як дэмакратычная студэнцкая газэта. Упершыню прагучала шўідэя аб гуртаваньні студэнтаў у незалежную арганізацыю.

Да канца 1989 г. некаторыя суполкі распаліся, бо актывісты пасканчалі вну і разьехаліся. Прыкладна ў той жа час на базе тэхналягічнага, медычнага, педагагічнага інстытутаў ўзьнікла Задзіночаньне Беларускіх Студэнтаў.

Збольшага яго складалі людзі, якія раней ўваходзілі ў нейкія культурна-асьветніцкія, ці нацыянальныя суполкі й па розных прычынах усе яны апынуліся студэнтамі.

Першы этап дзейнасьці ЗБС быў культурна-асьветніцкім і нічым, акрамя узросту, ад таго ж Фронту, ды блізкіх да яго арганізацыяў, ЗБС на той момант амаль не адрозьніваўся.

З часам адбылася пэўная структурызацыя. Людзі, якія больш цікавіліся вызваленчым рухам, альбо культурай, зышлі ў Фронт, ды іншыя арганізацыі кшталту "Выбранецкіх шыхтоў" ці "Ваўкалакаў". Менавіта тады пачалася стварацца сапраўды нацыянальна скіраваная студэнцкая арганізацыя.

У 1990-91 гадах пачаліся першыя акцыі, якія тычаліся сфэры навучаньня й рэформы сістэмы адукацыі. Гэта была адмова вывучаць і здаваць іспыты па розных ідэялягічных дысцыплінах кшталту гісторыі КПСС, якая тады была абавязковым прадметам. Тады ж быў распачаты страйк на геаграфічным факультэце БДУ: увесь геафак не ішоў на заняткі, а па ататніх вну зьбіралі подпісы. Вынікам сталася адмена абавязковага вывувучэньня вышэй адзначаных дысцыплін, што мела даволі вялікі станоўчы водгук. Да таго часу за ЗБСам замацавалася сфэра, скіраваная на рэформу сістэмы адукацыі на Беларусі.

У 1992 годзе была зьдзейсьнена дзяржаўная рэгістрацыя ЗБС як грамадзкай арганізацыі. Хутка былі зарэгістраваны ЗБСаўскія сымбалі, а "Студэнцкая думка" зрабілася газэтай Задзіночаньня.

Гэтыя некалькі гадоў ішла праца сярод беларускага студэнцтва: збольшага— па Менску, трохі—па абласных цэнтрах, дзе былі вну. Фарміраваньне студэнцкага, як нацыянальнага, так і сапраўды інтэлектуальнага асяродку. Бо акрамя палітычных акцыяў і падтрымкі правоў студэнтаў Задзіночаньне займалася плённай працай па сістэме адукацыі й мэтодыцы навучаньня: праводзіла агульнарэспубліканскія канферэнцыіі; людзі, якія бывлі на такіх канферэнцыях, пачыналі разумець, што працэс навучаньня можа адбывацца па-іншаму, што можна знайсьці аднадумцаў у гэтай справе. У рэшце-рэшт яны атрымлівалі надзею неяк рэалізаацъ свае намаганьні. Вялікая праца была праведзена ў беларусізацыі тэрміналёгіі: былі выдадзены слоўнікі мэдычных, матэматычных ды іншых тэрмінаў, якія і зараз карыстаюцца папулярнасьцю ў студэнтаў.

Чым займаецца ЗБС зараз ведаюць нават дзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі – сябры менскіх суполак актыўна удзельнічаюць у пікетаваньні супраць разьмеркаваньня. Пра дзейнасьць наваполацкага ЗБСу ты зможаш даведацца, калі прыйдзеш да нас.

11 красавіка ПДУ наведала здымачная група БТ.Сталічныя госьці рыхтавалі новую перадачу з цыклю "Куды пайсьці вучыцца".Напэўна, пасьля выхаду гэтае праграмы ў эфір пра наш радзімы Ўнівэр даведаюцца па ўсёй Беларусі і адразу ж пажадаюць атрымаць адукацыю менавіта ў ПДУ.Так што, калі жадаеце пабачыць сябе й сваіх знаёмых у тэлевізары, сачыце за тэлепраграмай!

Нядаўна ў ПДУ выйшаў загад аб забароне паленьня ў яго памяшканьнях.Парушальнікам пагражаюць суворыя меры пакараньня – аж да выключэньня.Можна толькі падзякаваць адміністрацыі за такі клопат аб нашым здароўі.Хочацца спадзявацца, што прынятая мера падзейнічае, бо раней на перапынку ля прыбіральняў сякеру можна было вешаць…

Колькі дзён таму на БПСМаўскай шыльдзе, што вісіць на чацьвертым паверсе новага корпусу, зьявіліся стракаты плякат і некалькі ўлётак.Яны паведамлялі, якая класная тусоўка БПСМ, і як здорава быць яе сябрам. Найбольшую цікавасць выклікала ўлётка з доўгім пералікам ільгот, якія "паложаны" БПСМаўцам пры наведваньні цырульняў, басэйна, лазьняў, салёнаў прыгажосьці. Нейкі аматар чорнага гумару дадаў у сьпіс яшчэ трупярню. Невядома, ці паваліў пасьля гэтага натоўп жадаючых заняцца сваім зьнешнім выглядам у шэрагі БПСМу. А вось улёткі праз нейкі час таямніча зьніклі невядома куды…

# ДУМКІ ДЗЕ ВЫ?



Ганна Пушчына

Сябру.

*Завітай да мяне, толькі ў поўню.*
*Будзем піць цудадзейныя казкі.*
*І псаваць рэчаіснасьці маскі,*
*Завітай да мяне, толькі ў поўню.*
*Ты прыходзь, калі сонца загіне,*
*Варажыць па пакінутых рэчах,*
*Што спалілі ў абрадавай печы.*
*Ты прыходзь, калі сонца загіне.*
*Не сьпяшайся парушыць памежжа,*
*На якім мы спынілі стагодьдзе –*
*Час, дзе стомленасьць зноўку ў модзе.*
*Не сьпяшайся парушыць памежжа.*

***

*Пяшчотны зьмей паўзе ўнутры мяне,*
*Старанна разбурае думкі.*
*Ён вучыць атрыманьню асалоды*
*І радасьці паняцьця "здрада".*
*Шукае ў вачох бурштыны сноў,*
*Хавае іх на дне бутэлек.*
*Ён абдымае так юрліва ды працягла,*
*Што я не разумею: "Дзе я?"*

# Выкладчыкія перлы

Да гэтага часу мы друкавалі "пёрлы" выключна беларускамоўныя. Аднак, гэта зусім не азначае, што "великий и могучий русский язык" меньш прыдатны для рознага кшталту "ляпсусаў". Сьведчаньнем таму – новыя "пёрлінкі" з нетраў нашае калекцыі.

...Он достаточно глубоко запутал данную проблему

... Непринимайте скоропостижных решений

...Это не парта, это стол. Вы, наверное, парт не видели

...Я не для пуза работаю, я насаждаю жизнь,размножаю её!

...Ты так вздыхаешь, словно сам феодально зависим

...внутри отношений между каждым членом...

...скульптура у нас очень просыпается

...они всё время репетировают

...Синяя птица – птица счастья. Мы идём, идём за ней, а потом, бах – и аттестация

# КАРЫСНЫЯ ПАРАДЫ

## Толькі для чытачак крывічанкі

*Каб хутчэй набыць новыя капронавыя панчохі, старыя трэба папрасаваць вельмі гарачым прасам.*

*Каб выдаліць пляму зь любімай сукенкі,забруджанае мейсца трэба акуратна выразаць нажніцамі.*

*Калі ў вас адарваўся гузік, зашпіліце адзеньне булаўкай, бо й новы гузік у рэшце рэшт адарвецца.*

*Каб рукі не пацямнелі ад чысткі бульбы, прымусьце яе чысьціць свайго малодшага брата.*

*Калі хочаце атрымаць на Дзень народзінаў паштоўку зь віншаваньнем, паклапаціцеся адправіць яе загадзя.*

*Калі вам неабходна забіць у сьцяну цьвік, папрасіце суседа патрымаць яго – тады вы нізавошта не патрапіце па ўласных пальцах.*

*Калі вам раптам захацелася прыбраць кватэру, прыляжце на канапу – гэтае жаданьне хутка пройдзе.*



# Навіны з "Княжычу"

ГКК "Княжыч" сустрэў надыход вясны традыцыйным Гуканьнем. Пагодлівым сакавіцкім днём "княжычы" ды іхнія сябры з "Жалезнага ваўка" і "Маладога Фронту" выправіліся на бераг Дзвіны, дзе сьпявалі, гулялі, апляталі за абедзьве шчакі пусьцікі і вялі цікавыя размовы. "Цьвіком праграмы" стала традыцыйнае гушканьне на арэлях, якое чымсьці нагадвала цыркавы атракцыён эквілібрыстаў. Прынамсі, шанцы зьвярнуць сабе галаву меў кожны, аднак абышлося, на шчасьце, без асаблівых ахвяр.

У сакавіку "Княжычы" выступалі ў чацьвертай школе. Вучні ўбачылі невялікую праграму, прысьвечаную вясновым сьвятам народнага календара, паслухалі расповяд пра Гуканьне Вясны, Масьленіцу, Саракі, Юраўскае Сьвята. Выступоўцы прасьпявалі таксама некалькі вясновых песьняў і паказалі гледачам народныя гульні.

"Княжычы" плянуюць працягнуць свае выступы ў школках і дзіцячых садках горада.

уласная інфармацыя

# Піўма піва ныне ў шчаслівай гадзіне

*Гэтыя словы са старажытнае беларускае песьні цалкам могуць стаць жыццёвым лёзунгам полацкіх ( і ня толькі ) студэнтаў. Як вядома, дзе піва – там і студэнты, а дзе студэнты – там і піва... Гэтыя панняткі, здаецца, ужо немагчыма ўжываць паасобку.*

Між іншым, клінапісныя помнікі сьведчаць, што за 7 тысяч год да н.э. піва ўжо рабілі ў старажытным Бабілёне (Вавілоне ), а летапісы на папірусах распавядаюць аб тэхналёгіі прыгатаваньня гэтага "боскага напою" ў старажытным Эгіпце 4 тысячы гадоў таму. на дзяржаўныя справы, смакуе ў burштыновы напой?

З чаго толькі не робяць скарыстоўваюць для гэтага лісты проса. Але, пэўна, найлепшай ды напою нашага студэнцтва ёсьць продкі ўважалі піва як сьвяточны гасьцей. "Простае" ячменевае піва смачным здаровым напоем. Вядома большай гусьцінёй, больш цёмным было больш пеністым і давала болей

Хаця ж нам далёка да тысячаў гатункаў піва, аднак і ў нас знаўцы, здольныя ацаніць іх дасьведчаныя кажуць, што ёсьць ягоны смак ды пах. У вылучаюцца адценьні хмелю й тонкі



Уяўляеце сабе фараона, які, забыўшыся засені экзатычных расьлінаў дзівосны

піва ў сьвеце! Іньдзейцы агавы, дзікі мёд, жыхары Гімалаяў – клясычнай сыравінай для любімага зернейкі ячменю. Сто гадоў таму нашыя напой, якім частавалі найлепшых не "дурыла" голаў, служыла прыемным, было й піва "марцовае", якое валодала колерам і пэўнай саладжавасьцю. Яно газаў.

Нямеччыны, у якой, як вядома, некалькі знойдуцца і добрыя гатункі, і сапраўдныя вартасьці. Прынамсі, людзі асноўнымі паказальнікамі якасьці піва сьветлых гатунках яскрава водар соладу, у цёмным піве разам з гэтым – яшчэ й даволі адчувальны прысмак соладу, а прыемная гарчыня піва ствараецца ў асноўным рэчывамі хмелю.

Дарэчы, урачы лічаць піва карысным для страваваньня, паколькі яго рэчывы спрыяльна ўзьдзейнічаюць на стрававальны тракт.

Так што, студэнцтва, піўма піва й будзем здаровы!!!

P.S. Між іншым, адзін з апошніх сусьветных рэкордаў у піцьці піва быў устаноўлены ў чэскім мястэчку Сьвітава, у тамтэйшай піўніцы "На ўзгорку". Роўна за суткі 30 удзельнікаў спаборніцтва "перакулілі" 765 паўлітровых куфляў "боскага напою". У індывідуальным заліку рэкорд быў роўны 43 куфлям.

**Сапраўдны студэнт.**

# КНІГАРНЯ

## СТУДЭНТУ НА ЗАМЕТКУ

Ці даўна, шаноўны дружа, ты наведваў кнігарню? Што там рабіць, пытаесься? Сапраўды, піва там не прадаюць, "відзікі" не круцяць. Але, ведаеш, часам карысна адарвацца ад кампутара ці тэлевізіі, ды й зьвярнуцца да старых добрых сяброў – кніжак, што несьлі чалавецтву зерне мудрасьці за сотні гадоў да вынаходніцтваў ЭВМ і TV.

Магчыма, прачытаўшы гэты артыкул, ты схопіш рэшткі стыпендыі ды паімчыш у кнігарню, каб зараз жа прыдбаць штосьці ва ўласную бібліятэку…

Безумоўна, невялічкі артыкул ня можа поўнасьцю ахапіць усю агромністую разнастайнасьць тэм і стракатасьць вокладак, што прапануюць сёньня чытачам "Усход" і "Дом кнігі". Мы зьвяртаем тваю ўвагу толькі на тое, што падалося найбольш цікавым, а галоўнае – даступным для нашае з табой студэнцкае кішэні.

"Хто ёсьць хто ў Рэспубліцы Беларусь".

Па сутнасьці, гэта першае ў Беларусі такога кшталту выданьне. Кніга зьяўляецца ўнікальным біяграфічным даведнікам і зьмяшчае болей як 600 артыкулаў аб найбольш выбітных асобах сучаснасьці.

"Таямніцы полацкай гісторыі" Уладзімера Арлова даўна ўжо сталіся культавай рэччу. Новае выданьне гэтас кнігі вызначаецца адметнай зьнешняй аздобай і, вядома ж, ня меней адметным зьместам.

"Очерки истории Беларуси" П.Г.Чыгрынава, паводле анатацыі, на багатым фактычным матар'яле даюць карціну айчыннае гісторыі ад старажытнасьці да сучаснасьці. Адметна, што супастаўленьне зьместу гэтае кнігі, што ёсьць узорам сучаснае афіцыйнае гістарыяграфіі, з выданьнямі па гісторыі Беларусі першай паловы 90-х выклікае шэраг пытаньняў. Пошук адказаў на іх – справа для нашых апантаных братоў-гісторыкаў.

Аматарам прыгожага пісьменства будзе цікавым зборнік В. Марк-Геарга "Одическое ожерелье. Нить первая". Аўтар – прадстаўнік даволі рэдкага жаноу філязофскай паэзіі – дае ўласную канцэпцыю Сусьвета й Чалавека.

Прыхільнікам лірыкі, пэўна ж , даспадобы будуць шчырыя вершы Галіны Каржанеўскай зь яе новага зборніка "Асеньні мёд".

Ну, а тыя, хто любіць бавіць вольны час за інтэлектуальнымі практыкаваньнямі, могуць задаволіць свой дапытлівы розум выданьнем з серыі "Хатняя энцыкляпедыя" – "Кроссворды, ребусы, головоломки".

Даволі багаты выбар у нашых кнігарнях спецыялізаванай літаратуры па гісторыі, сацыялёгіі, правазнаўству, філязофіі, эканоміцы. Аднак, сымптаматычнай на працягу даволі доўгага часу стала беднасьць на беларускую літаратуру ды й фактычная адсутнасьць яе навінак.

Па ўсім бачна, нашмат большым попытам карыстаюцца жаночыя раманы, падобныя адзін да аднаго, як браты-блізьняты, ды рознага кшталту гараскопы, варожбы й забабоны…

**Па кнігарнях хадзіла і кніжкі бачыла Вера Ліпская.**

# ПРАФІЛАК

Пры згадваньні слова “прафілакторый” ( ці “прафілак” – як яго завуць у студэнцкім асяродзьдзі ) адныя студэнты папросту ня ведаюць, што гэта такое, другія ведаюць, але ніколі там не былі, а трэція – і ведаюць, і былі, і зноў імкнуцца туды патрапіць.

Дык, усё ж такі, чым ёсьць прафілакторый у жыцьці студэнта, чаму туды так усе ірвуцца і чаму так цяжка там апынуцца? Каб атрымаць адказы на ўсе гэтыя пытаньні, карэспандэнтамі “Канспэкту” было праведзена апытаньне жыхароў прафілаку.

На пытаньне: “Што для вас значыць прафілакторый?”, амаль усе з апытаных адказалі, што гэта – магчымасьць адпачыць, прыдбаць шмат новых сяброў, пажыць асобна ад бацькоў, атрымаць асалоду ад студэнцкага асяродку. Падабаецца прафілак і за тое, што 24 дні можна не хваляваціца наконт ежы і непрыемнай цісканіны ў аўтобусах, бо ён знаходзіцца вельмі блізка ад унівэрсытэту. Гэта адказ на пытаньне, чаму так ірвуцца туды студэнты.

Калі было зададзена пытаньне: “Ці задавальняюць вас умовы пражываньня (ежа, абслугоўваньне і г.д. ) навічкі адказалі станоўча. Але тыя, хто быў тут ужо не адзін раз, прыгадвалі старыя добрыя часы, калі давалі садавіну і гародніну, вэнджаную кілбасу і курыцу, натуральныя сокі і шмат яшчэ чаго смачнага. Улюбёныя стравы ў прафілаку зараз – пярлоўка ды сечка. Але не хвалюйцеся, да кашы дадаюцца шматлікія мясныя стравы. І не трэба расчароўвацца, калі замест нейкага мудрагелістага “кнэлі” вам прынясуць простую катлеціну. Вам яе прынясуць, і калі ў меню будзе пазначана “біток, шніцаль, ростбіф”. Проста пры мінімальных сродках у працаўнікоў кухні максымальная фантазыя.



Чаму ж так цяжка патрапіць у студэнцкі прафілак? А справа ў тым, што, калі ў вас няма блату, то павінен быць “Д”-улік ( якая-небудзь страшная хвароба ), інакш ня бачыць вам прафілаку, як уласных вушэй. Калі пагартаць медычныя карткі студэнтаў, што тут жывуць, ствараецца ўражаньне, што будучыня нацыі пад пагрозай.



Але гэта зусім не азначае, што “хворыя” трапляюць у прафілак, каб падлячыцца. Ня вельмі яны сьпяшаюцца на ўколы ды працэдуры. Пад “лячэньнем” у студэнтаў разумееца крышку іншае, чым ва ўрачоў. Лечацца ў прафілаку па-рознаму: хтосьці шалее, вырваўшыся з учэпістых лап бацькоў, што праяўляецца ў гайсаньні і вішчаньні пад роў музыкі; хтосьці адпачывае пад гітарныя сьпевы ў коле новых знаёмых; а для кагосьці “лячэньне” заключаецца ва “ўнутраным уліваньні”. Калі ж вы любіце вучыцца ці адпачываць у цішыні, гэтае мейсца не для вас. Да двух гадзінаў ночы заснуць проста немагчыма – так весела і шумна ў прафілаку.

Але ня ўсё задавальняе студэнтаў у прафілакаўскім жыцьці. Не падабаецца тое, што душ працуе толькі з 20 да 23 гадзінаў, што ў пакоях вельмі халодна, што гасьцей пушчаюць толькі да 17 гадзінаў. Сярод таго, што падабаецца, былі пазначаны хваёвыя ванны, масаж і адпачынак увечары ў тэлевізіёнцы.

Калі вы ніколі не жылі ў інтэрнаце і хочаце адчуць гэтую атмасфэру – бяжыце хутчэй падаваць заяву ў прафілакторый. Для тых жа, хто ўжо жыве ў інтэрнаце, прафілак можа стаць шанцам адпачыць ад прыгатаваньня ежы і мыцьця посуду. Так што засяляйцеся ў прафілак – і не пашкадуеце! Прыемнага адпачынку!

“Прафілакавец” са стажам
Алена Плюта.



# Лекі
## ці калекі

Кожны з нас мае свае індывідуальныя патрабаваньні да ўзроўню жыцьця, адукацыі, палітычнага і эканамічнага стану краіны. Усе гэтыя патрэбы розьняцца па ступені неабходнасьці. Але першачарговым і найважнейшым ёсьць для нас здароўе. Яно павінна быць моцным і здольным трываць заўсёдашнія стрэсы нашага ліхаманкавага існаваньня.

Час ад часу нам усім даводзіцца зьвяртацца ў шпіталь ці паліклініку. Вось тады і пачынаецца пакутны шлях, на прыканцы якога задаеш сабе пытаньне: “Калі я знаходжуся ў храме аховы здароўя, дык чаму ж апасьля ўсіх пакутаў і бадзяньняў з кабінэта ў кабінэт я ня толькі не адчуваю палёгкі, але й нават ня ведаю, што са мною здарылася?” Вам знаёмая такая сытуацыя? Тады паспрабуем разам высьветліць прычыны, што параджаюць такога роду праблемы.

Зазвычай наракаюць на цяжкае эканамічнае становішча. Насамрэч, ва ўмовах “бясплатнага мэдычнага абслугоўваньня ” ў шпіталь цяпер даводзіцца несьці ўласныя бінты і шпрыцы. Але адсутнасьць грошай хоць і галоўны, але не адзіны “стымул ” пагаршэньня абслугоўваньня насельніцтва ў мэдычных установах.

Сытуацыя: чалавек стукае ў дзьверы рэнтгэнкабінэта, увaходзіць, гукае мэдсястру, чуе з-за бакавых дзьвярэй “Заходзьце!” і адчыняе іх. Адтуль вырываецца дракон, які дзьмухае полымем і лаецца, што заходзіць туды было нельга, і наогул, усе здымкі зараз сапсаваныя. Па лёгіцы, на дзьвярах мусіла вісець шыльдачка з надпісам “Не ўваходзіць! Праяўка стужкі.” Ці, магчыма, быў бы болей дзейсным надпіс “Асьцярожна! Разьюшаная мэдсястра.” Тады б кожны ведаў, што да сваёй хваробы ён можа без аніякіх пакутаў і амаль задарма атрымаць яшчэ й няўроз.

Падобныя выпадкі паказваюць, што адміністрацыя паліклінік і шпіталяў ня здольная належным чынам арганізаваць ўмовы для якаснай працы пэрсаналю. Іншы асьпэкт тае ж праблемы—непавага асобных мэдработнікаў да пацыентаў і жаданьне лічыць сябе “царком і ўладаром лёсаў” хаця б на мізэрным узроўні.

Акрамя вышэйпералічаных, дадаецца яшчэ адзін фактар: мы самі з дэзарганізацыяй працэсу абслугоўваньня. Калі ў цябе талончык на тры гадзіны, навошта прыходзіць аб адзінаццатай і ўпарта настойваць на жывой чарзе, лаючыся пры гэтым з тымі, хто спрабуе табе пярэчыць.

Празаічная і парадаксальная напрошваецца выснова: дзеля якаснага мэдычнага аблугоўваньня ўсе павінны быць максымальна карэктнымі адзін з адным. Тады і дыягназы будуць ставіцца хутчэй, і абодва бакі ня будуць выходзіць з паліклінікі як з камэры катаваньняў.

Тацьцяна Каліта.

# Віншаваньні

*Шчыра віншую маю даражэнькую сяброvачку Верачку зь ДНЁМ НАРОДЗІНАЎ!!! Я жадаю табе знайсьці ўзаемнае КАХАНЬНЕ (як гэта ёсьць у мяне), ну, і сто тысяч даляраў на кішэнныя расходы.*

*Марынка.*

*Наваполацкі ЗБС віншуе Рыту Гаціх з мінулым Днём Народзінаў! Шчыра зычым вялікага каханьня і посьпехаў на ніве прафэсыйнай і грамадзскай дзейнасьці.*

*Любая наша Нюсечка!!! Зь Днём народзінаў!!! Заставайся такой жа сьветлай, сонечнай і жыцьцярадаснай!*

*96-ГІС*

*Віншуем Сабалеўскую Ларысу з пасьпяховым падыходам да фіналу навучаньня. Жадаем пасьпяхова абараніцьдыплём.*

*Сябры – аднадумцы.*

*Віншуем сябе!*

*Мы самі.*

*Віншую Сапега Марыну з надыходам вясны, жадаю заставацца такой жа вясёлай й жыцьцярадаснай.*

*Bamelc.*

*Натальля Беллерт, віншую цябе з мінулым Днём народзінаў. Жадаю моцнага здароўя, шчасьця, каханьня, посьпехаў у вучобе.*

*Андрэй.*

# Абвесткі

Наваполацкая філія ЗБСу шукае новых сяброў!!! Калі ты творчы, таленавіты, альбо проста сапраўдны студэнт і любіш піва і класныя тусоўкі – гэтая абвестка для цябе.

Зацікаўленых просім зьвяртацца ў рэдакцыю «Канспекта»




# З жыцьця студэнта анекдоты

Чаму студэнту нельга жаніцца? Таму што, калі ён будзе шмат займацца жонкай – вырастуць хвасты. Калі толькі вучобай – рогі. А калі і тым і іншым – адкіне капыты.

Студэнт прынёс пляшку гарэлкі за "4" на іспыце. Выкладчык п'е і гаворыць:
—Быў бы агурок – былоб бачна.

Прыгожая студэнтка маладому выкладчыку:
—Дзеля таго, каб здаць вам іспыт, я гатовая на ўсё!
—Цудоўна! Тады вывучыце матэрыял.

Выходзіць студэнт з аўдыторыі. Сябры пытаюцца:
—Ну што, здаў?
—Здаецца здаў.
—А што пыталіся?
—Да, чорт яго ведае, ён жа па ангельску пытаўся!

—Самы лепшы сродак супакоіць дзяўчыну калі яна ў гістэрыцы, —тлумачыць псыхоляг студэнтам – пацалунак.
—Скажыце, прафэсар, а як лепш давесьці да гістэрыкі?

Студэнт адпрошваецца ў выкладчыка зь лекцыі:
—У мяне ангіна.
Пасьля лекцыі выкладчык вяртаецца дадому і бачыць "хворага" студэнта, які гуляе з прыгожай дзяўчынай. Кліча яго да сябе і кажа:
—Хлопец, з ТАКОЙ ангінай трэба ляжаць у ложку.

Сэсія. З аўдыторыі выбягае радасная студэнтка. Натоўп:
—Здала?
—Здала!
З аўдыторыі выходзіць змучаны выкладчык:
—Ну, не зусім каб здала... Гэта я здаўся.

Бібліятэка ў штаце Тэхас. У вестыбюлі стаіць некалькі вешалак з надпісам "толькі для выкладчыкаў". Нейкі студэнт-жартаўнік дапісаў:"можна таксама вешаць паліто і капялюшы".

Кантактная адрэса: Наваполацак-8,
п/с 26, тэл/fax 5-32-22
E-mail:bamelc@usiaslau.lingvo.vitebsk.by

Канспэктавалі:
Заснавальнік Андрусь Храпавіцкі,Виталь Броўка. Рэдакцыйная Рада Рыта Гаціх, Вера Ліпская, кампутарная вёрстка Бамелкаў Андрэй. Нумар выдадзены пры тэхнічнай дапамозе ГАКАІ«УсяславЧарадзей». Выдаецца на правах рукапісу. **Наклад 299 асобнікаў**